

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# наша СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 16 (603) 7 ТРАЎНЯ 2003 г.

## Пачата падрыхтоўка па змяненні Закона Рэспублікі Беларусь “Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь”

НАЦЫЯНАЛЬНЫ СХОД РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
ПАЛАТА ПРАДСТАЎНІКОЎ
Камісія па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу
220010, г. Мінск, Дом Урада, тэл./факс (017) 222-65-45, факс (017) 227-37-84
E-mail: aduk@belarus.minsk.by



НАЦИОНАЛЬНОЕ СОБРАНИЕ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
ПАЛАТА ПРЕДСТАВИТЕЛЕЙ
Комиссия по образованию, культуре, науке и научно-техническому прогрессу
220010, г. Минск, Дом Правительства, тел./факс (017) 222-65-45, факс (017) 227-37-84
E-mail: aduk@belarus.minsk.by

17.04.2003 № 20-3/1560

Старшыні Грамадскага аб'яднання “Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны” Трусаву А.А.

**Паважаны Алег Анатольевіч!**

У Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу разгледжаны Вашы лісты, у якіх Вы прапаноўваеце ўнесці змяненні ў дзеючае заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб мовах. Камісія пагаджаецца з Вамі ў тым, што дзеючы Закон Рэспублікі Беларусь “Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь” патрабуе пэўнай карэкціроўкі.

У цяперашні час камісія арганізуе работу па падрыхтоўцы праекта Закона Рэспублікі Беларусь “Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі “Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь”, у ходзе якой будуць улічаны Вашы прапановы.

**Старшыня камісіі – І. В. Катляроў.**

## Прызёр арганізацыі “Міжнародная сувязь”




Семікласніца СШ № 3 Крычава Насця Язерская стала трэцяй пераможцай у конкурсе на лепшае сачыненне, які абвясціла арганізацыя “Міжнародная сувязь”, што знаходзіцца ў швейцарскім горадзе Берн. Сачыненн Насця напісала ў форме ліста да брата. Галоўным зместам ліста стала думка дзяўчынкі, як лепш будаваць будучыню з дапамогай добрых спраў, добрых думак, добрых і пяшчотных адносін адзін да аднаго.

**На здымку:** Насця Язерская, Якая любіць не толькі родную і рускую мовы, але з цікавасцю вывучае яшчэ нямецкую і англійскую.

**Фота Валерыя Бысава, БелТА.**

## Велікодны “падарунак” для Гарадзенскага абласнога грамадскага аб’яднання“Ратуша”

Афіцыйна зарэгістраванае Гарадзенскае абласное грамадскае аб'яднанне “Ратуша” распаўсюдзіла прэс-рэліз, у якім у прыватнасці гаворыцца.

“21 красавіка 2002 года ўпраўленне юстыцыі Гарадзенскага аблвыканкама скіравала ў Гарадзенскі абласны суд зыскавую заяву аб ліквідацыі Гарадзенскага абласнога грамадскага аб'яднання “Ратуша”. Падставай для ліквідацыі паслужыла нібыта тое, што ГАГА “Ратуша” на працягу года двойчы парушыла правілы выкарыстання, уліку і захоўвання паліграфічнага абсталявання (рызографа “Riso GR 3750”)

Неабходна адзначыць перадузятасць дзяржаўных чыноўнікаў. Паводле пастановы адміністрацыйнай камісіі Адміністрацыі Ленінскага раёна г. Горадні ад 24.04.2002г., старшыня ГАГА “Ратуша” А.У. Мілінкевіч на падставе ч.2 арт. 172 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных праваапрушэннях быў прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці выключна за парушэнні правілаў выкарыстання памнажальнай тэхнікі (не маючы ліцэнзіі, друкаваў кнігі), а не так як засведчана ў зыскавой заяве “за парушэнні правілаў уліку і захоўвання паліграфічнага абсталявання а таксама выкарыстання памнажальнай тэхнікі”.

Да таго ж, у адпаведнасці з арт. 28 Закона “Аб грамадскіх аб'яднаннях” упраўленне юстыцыі павінна было (калі прыйшло да высновы, што грамадскае аб'яднанне дапусціла якія-небудзь парушэнні) вынесці паўторнае пісьмовае папярэджанне па пытаннях, звязаных з парушэннем правілаў выкарыстання паліграфічнага абсталявання. Гэта дало б магчымасць ГАГА “Ратуша” ў адпаведнасці з ч.3 арт.28 Закона “Аб грамадскіх аб'яднаннях” абскардзіць пісьмовае папярэджанне ў абласны суд. Аднак, упраўленне юстыцыі пажадала, як мага хутчэй ліквідаваць ГАГА “Ратуша”, і адразу звярнулася у суд з зыскавой заявай аб ліквідацыі аб'яднання, чым пазбавіла “Ратушу” права на абскарджванне.

Гарадзенскае абласное грамадскае аб'яднанне “Ратуша” было зарэгістравана ўпраўленнем юстыцыі Гарадзенскага аблвыканкаму 24 красавіка 1996 г. у адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь “Аб грамадскіх аб'яднаннях”. 30 верасня 1999 г. ГАГА “Ратуша” было перарэгістравана ў адпаведнасці з Дэкрэтам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 2 ад 26.01.1999 г.

Паводле мэтаў, задач і метадаў дзейнасці, зафіксаваных у статуце. Гродзенскае абласное грамадскае аб'яднанне “Ратуша” садзейнічае развіццю гуманітарнай адукацыі, культуры, навукі, аховы здароўя, СМІ, права, рынкавай эканомікі, міжнародных кантактаў і супрацоўніцтва.

У рамках сваёй статутнай дзейнасці аб'яднанне прыцягвае сродкі і іншыя віды дапамогі для рэалізацыі праектаў і праграм, скіраваных на дасягненне статутных мэтаў і задач. ГАГА “Ратуша” аказвае арганізацыйную і іншую падтрымку фальклорных і музычных калектываў, садзейнічае правядзенню сустрэч гарадзенцаў з вядомымі гісторыкамі і дзеячамі культуры, распрацоўвае і праводзіць адукацыйныя праграмы па актуальных пытаннях прававога, эканамічнага і палітычнага жыцця Рэспублікі Беларусь.

Гарадзенскае абласное грамадскае аб'яднанне “Ратуша” з'яўляецца асноўным выканаўцам міжнароднага праекта “Інтэрнэт” для недзяржаўных арганізацый”, які рэалізуецца Праграмай развіцця ААН у Беларусі.

ГАГА “Ратуша” распаўсюджвае сваю дзейнасць на ўсю тэрыторыю Гарадзенскай вобласці. Партнёрамі ГАГА “Ратуша” з'яўляюцца звыш 100 зарэгістраваных грамадскіх аб'яднанняў, а таксама незарэгістраваных грамадзянскіх ініцыятыў.“

Беларуская мова – ТБМ – наша будучыня

### Ахвяраванні на ТБМ

1. Дзюбкачова – 5000 р. -- Менск
2. Рылынец А. – 5 дол. -- Менск
3. Казлоўская – 5000 р. -- Менск
4. Клыбік Л.– 50 еўра. – Бельгія
5. Арэшка А. – 50 еўра. – Бельгія
6. Смарчок Зоя – 100 еўра. -- Бельгія
7. Фурс Ант. – 5000 р. – Паставы
8. Судзілоўская Л. І. – 1000 р. – Гомель
9. Казлоўская -- 1200 р. – Менск
10. Лісоўскі Т. – 9000 р. – Менск
11. Настаўніцы бел.мовы – 11000 р. Менск
12. Кісляк Васіль на каляндарыкі Арсеньевай – 10 дол.
13. Кузуб М. А. – 10000 руб – Менск
14. Барт Вера – 50 еўра – Германія
15. Вольга Вільсан-Юрэвіч – 50 дол. – ЗША
16. Петрукевіч Васіль – 10000 – Менск
17. Міхась Тычына – 3000 р.– Слуцк
18. Талуць С.Ф. – 3000 р. – Гомель
19. Сеўрук З.Б. – 3000 р. - Менск

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г.Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Бела-русбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).



№ 16 (603) 7 ТРАЎНЯ 2003 г. наша слова

# Пра мову для матэматыкаў – кранальна...

На пачатку новага года ў Магілёве адбылося “Беларускае пяціборства – II”, арыгінальнае спаборніцтва школьнікаў, на якім яны павінны выявіць свае веды не ў адной асобнай дысцыпліне (як на традыцыйных алімпіядах), а ў цэлым комплексе дысцыплін. Менавіта ў такім спаборніцтве выяўляецца дзейнасць работы установ адукацыі, а не асобных іх настаўнікаў. Менавіта ў такім спаборніцтве навучэнцы могуць асэнсаваць якасць атрыманай імі адукацыі.

Паводле задумы “Беларускае пяціборства” з'арыентавана найперш на тых навучэнцаў, якія маюць схільнасці да матэматыкі, да прыродазнаўчых навук, і, ужо абраўшы сабе пэўны кірунак спецыялізацыі, не ўдзяляюць дастатковай увагі дысцыплінам гуманітарнага профілю (гісторыі, літаратуры, роднай мове), рызыкуючы застацца недаадукаванымі ў важнейшых для чалавека галінах. Гэтым і абумоўлены выбар заданняў “пяціборства”: матэматычная задача, пытанні па гісторыі Беларусі, па беларускай літаратуры і па адной з дысцыплін цыклу “Сусвет і прырода”. Па роднай мове асобнага задання няма, але якасць валодання мовай выяўляецца ў самой рабоце. Адзнака за мову работы – пяты паказчык, па суме якіх і вызначаюцца пераможцы.

“Беларускае пяціборства” праводзіцца другі раз. Яно “вырасла” з беларускіх матэматычных алімпіяд, якія Магілёўская абласная арганізацыя ТБМ пачала ладзіць з 1999 года. Назапашаны досвед дазваляе праводзіць пэўны аналіз і рабіць першыя высновы.

Пачнём з таго, што не пацвердзіліся меркаванні скептыкаў, быццам ахвотнікаў рашаць матэматычныя задачы на беларускай мове не знойдзецца. Знаходзяцца і досыць шмат. Вось і на гэты раз самая вялікая зала ўніверсітэта ледзь змясціла дзесяткі пяціборцаў з розных навучальных устаноў Магілёва і вобласці. Пераважная большасць з іх вучацца ў рускамоўных установах і ні матэматыкі, ні фізікі, ні біялогіі на беларускай мове не чулі. Тым не менш гатовыя змагацца...

Вось тут і выяўляецца першая праблема, створаная нашай адукацыйнай сістэмай.

Мовы, як усім вядома, у нашай дзяржаве дзве. Па Канстытуцыі яны роўныя. Але па жыцці не так. І ў школах – рускую мову вучаць да той ступені, каб яе ведалі і маглі карыстацца, карыстацца ў любой сітуацыі, прынамсі на любым уроку, а беларускую толькі вучаць. Каб гэтая выснова не была галаслоўнай, падмацую яе прыкладамі.

Настаўнікі матэматыкі ў беларускіх школах, разумеючы, што іх выхаванцам давядзецца слухаць лекцыі ў ВНУ на рускай мове, чытаць рускамоўныя падручнікі, рыхтуюць іх да гэтага, паведамляючы, як гучыць той ці іншы матэматычны тэрмін на рускай мове, і час ад часу выкарыстоўваючы яго ў размовах з вучнямі. Зусім іншая сітуацыя ў рускіх школах. Там настаўнікі матэматыкі (як і фізікі, хіміі, астраноміі...) і не думаюць паведамляць сваім вучням, як гучыць і як пішацца той ці іншы матэматычны тэрмін па-беларуску. Хаця ў розных ВНУ Беларусі (і Магілёва ў прыватнасці) беларускамоўны лектар, выкладчык ужо не рэдкасць, у тым ліку ў матэматычных навуках, і выпускнік рускамоўнай школы можа патрапіць да такога выкладчыка. Але такая магчымасць школьнымі-ліцэйскімі настаўнікамі яшчэ не ўсвядомлена, як і не ўсвядомлена неабходнасць да гэтага загадзя рыхтаваць.

Вось і атрымліваецца: прыйшоў чалавек на “Беларускае пяціборства” рашаць матэматычную задачу і хоча выкарыстаць уласцівасць датычнай да акружнасці. Але яму ніхто не казаў, як па-беларуску гучыць рускі тэрмін “касательная”, і ён пачынае шукаць свае адпаведнікі, пачынае займацца моватворчасцю. У аднаго чытаем “касальная”, у другога – “датыкальная”, у трэцяга – “даткнутая”, у чацвёртага – “кранальная”, у пятага “кранацельная”, “кранаючая”... Некаторыя з гэтых варыянтаў мне падабаюцца, бо ў іх вучні выяўляюць генетычную здольнасць валодання роднай мовай у любых, нават незнаёмых, сітуацыях, здольнасць да адпаведнай моватворчасці (менавіта ў рэчышчы роднай мовы), калі слоўнікавага запасу не хапае. Але, з іншага боку, яны павінны ведаць, як гучыць тое ці іншае паняцце на роднай мове. І калі школа да такога ведання не даводзіць (заўважце: не даводзіць тых, хто гэтага хоча!), то такая школа не навучае роднай мове ў патрэбным аб'ёме, тым самым парушаючы канстытуцыйны прынцып роўнасці моваў, а значыць, парушаючы Канстытуцыю.

Значная колькасць моўных памылак на “Беларускім пяціборстве” і звязана з тым, што ўдзельнікі не ведаюць, што ў матэматыцы руская “точка” перакладаецца як “пункт”, а не “кропка”, што ў трохвугольніку (не ў трывугольніку) “старана”, а не “бок”, што ёсць “прыметы” паралельнасці, а не “прызнакі”, ды інш.

Я ўжо не кажу пра тэрміналогію, удасканаленую некалькімі навуковымі канферэнцыямі, на падставе чаго выдадзены новыя руска-беларускія слоўнікі (матэматычны, фізічны ды інш.), аб чым у школах, мабыць, і не чулі. Гэтыя слоўнікі настаўнікі не заўважаюць, ігнаруюць, нібыта іх няма. Але гэта азначае толькі, што ад настаўнікаў такога і не патрабуецца. Хацелася б спытаць кагосьці з міністэрства адукацыі: чаму?

Якая яшчэ выснова з праведзеных спаборніцтваў? Тое, што і падазравалася: лепшыя матэматыкі, фізікі даволі часта гісторыю і літаратуру ведаюць няўцямна, павярхоўна, маючы тым не менш высокія ацэнкі па гэтых дысцыплінах. У школах ужо як бы і пагаджаюцца: ну пойдзе ён у тэхнічную ВНУ, ну навошта яму гісторыя княжання Вітаўта ці Багдановічавы вершы. Яму як бы дазваляецца траціць на гэта менш сіл і ведаць крыху менш патрэбнага. Але ж, з іншага боку, навошта ж псаваць яму атэстат нізкімі ацэнкамі па “непатрэбных” дысцыплінах? І ў выніку: веды сякія-такія, а ацэнкі высокія. Высокія ацэнкі заспакойваюць вучня: маўляў, патрэбнае я ведаю. Атрымліваецца нейкая мядзведжая паслуга: адпаведныя ведам ацэнкі падштурхнулі б чалавека да большай актыўнасці, да ўзбагачэння сябе вельмі патрэбнымі (хаця і не на першы погляд) ведамі, а так ён вырастае недавучаным.

Асабліва гэта тычыцца роднай мовы. У рускамоўных навучальных установах веданне роднай мовы на ўзроўні свабоднага карыстання ёю ( а пра іншае і гаварыць не выпадае) часта не з'яўляецца прыярытэтам. І выпускнік такой установы выходзіць у свет з добрай адзнакай па мове, але досыць слаба ёю валодаючы. Калі ж узнікае патрэба ў аваладанні мовай, то чалавек вымушаны прыкладваць дадатковыя намаганні да гэтага.

Добра, што “пяціборства” калі-нікалі надае такія стымулы. На першай беларускай матэматычнай алімпіядзе таленавіты дзевяцікласнік ліцэя Ю. Грушэцкі, знайшоўшы найлепшае з усіх рашэнне матэматычнай задачы, заняў толькі шостае месца, бо зрабіў шмат моўных памылак, а пераможцаў вызначалі па суме балаў за матэматыку і мову. На другі год ён зноў прыйшоў на беларускую алімпіяду і зноў быў лепшым у матэматыцы, але цяпер і мова яго стала нашмат лепшай, па мове ён саступіў толькі аднаму ўдзельніку. Заслужаная перамога!

Хто ж пераможцы “Беларускім пяціборстве – II”? Сярод трох прызёраў – прадстаўнікі элітных устаноў адукацыі – ліцэяў, гімназіі (натуральна, рускамоўных). Двое з іх – Зміцер Кажарскі (I месца) і Алесь Сцяпялоўскі (III месца) перамаглі, дзякуючы развітай матэматычнай інтуіцыі і атрыманым глыбокім матэматычным ведам, балы за мову і гісторыю тут не былі высокімі. Трэці ж – Ілля Мачалаў (II месца), таксама добры матэматык, у мінулым годзе ўдзельнічаў у рэспубліканскай алімпіядзе, на гэты раз на матэматычнай задачы спатыкнуўся. Вось тут яму і прыйшла на дапамогу родная мова і гісторыя сваёй краіны, якія ён таксама ведаў дастаткова добра. Яны і вывелі небараку матэматыка на другое месца ў “пяціборстве”.

Акрамя галоўных прызоў журы адзначыла спецпрызамі пераможцаў у асобных намінацыях.

Дапамагаюць ладзіць “Беларускае пяціборства” Магілёўскі дзяржаўны універсітэт імя А. Куляшова (рэктар – А. Радзькоў) і грамадскае аб'яднанне “Кола сяброў” (дырэктар – В. Васількоў). Шчырая падзяка і тым, хто выдзяляе сродкі для ўзнагароджвання пераможцаў (шкада, што гэтыя сціплыя людзі не хочуць, каб іх прозвішчы былі агучаны).

Ідэя “Беларускага пяціборства” засведчыла сваю годнасць. Можна ўжо падумаць аб тым, як зрабіць “пяціборства” агульнарэспубліканскім праектам. Магілёўская абласная арганізацыя Таварыства беларускай мовы гатова абмяркоўваць гэтую ідэю з міністэрствам адукацыі.

***М. Булавацкі,***
***старшыня журы***
***“Беларускага пяціборства”***

***Для тых, хто хацеў бы віртуальна паспрабаваць сябе ў ролі “пяціборца”, даём тэксты заданняў (час на іх выкананне: 100 хвілін):***

***Заданне № 1 (матэматыка): Адрэзак з канцамі на старанах прамога вугла, перпендыкулярны яго бісектрысе, падзяляецца акружнасцю, умежанай у гэты вугал, на тры роўныя часткі. Знайдзіце даўжыню адрэзка, калі радыус акружнасці мае даўжыню 10 см.***

*(Адзнака за рашэнне: ад 0 да 100 балаў).*

***Заданне № 2 (фізіка): Што адбудзецца з яйкам, у якое патрапіць куля, калі а) яйка сырое? б) яйка зваранае крута? в) яйка зваранае ўсмятку? Патлумачце адказы спасылкамі на законы фізікі.***

*(Адзнака за адказы: а – да 12 балаў, б – да 8 балаў, в – да 10 балаў).*

***Заданне № 3 (гісторыя): Назавіце жанчын, імёны якіх засталіся ў гісторыі Беларусі X-XV стагоддзяў. Чым яны праславіліся?***

*(Адзнака: па 3 балы за кожнае імя, да 7 балаў за кожнае тлумачэнне; максімум 30 балаў).*

***Заданне № 4 (літаратура): Больш за 100 гадоў таму ў Гродне выйшла кніга “Пережитки древняго міросозерцанія у белоруссовъ”. У “Введеніі” аўтар пісаў: “И жизнь белорусса, и его творческая деятельность резко отмечены печатью неразвитости, отсталости, забитости... Белорусскій языкъ... небогатъ словами... Онъ также беденъ формами выраженій и формами речи... Онъ также не обладаетъ гибкостью, силой и выразительностью... Справедливость требуетъ поставить белорусса по типу душевнаго развитія ниже его братьевъ изъ великой русской семьи...” Хутка пасля выхаду гэтай кнігі аўтар з сям'ёй пераехаў жыць у Расію. Але адзін з яго сыноў, жывучы з пяцігадовага ўзросту і амаль да канца жыцця ў Расіі, не чуючы там роднай мовы, стаў тым не меней знакамітым беларускім паэтам. Сваёй творчасцю, сваімі вершамі ён запярэчыў бацькавай ацэнцы нашай мовы. Назавіце імя паэта і імя яго бацькі. Працытуйце адзін з вершаў паэта (ці хаця б некалькі яго радкоў).***

*(Адзнака: 10 балаў за імя паэта, 5 – за імя бацькі і па адным бале за кожны вершаваны радок; максімум: 40 балаў).*

*Адзнака за мову вызначаецца па формуле* ***M:(N+1)****, дзе* ***M*** *– колькасць выкарыстаных пры выкананні ўсіх заданняў слоў даўжынёй не менш за 4 літары,* ***N*** *– колькасць зробленых памылак (памылкі лічацца ўсе – непастаўленыя ці пастаўленыя не на месцы коскі, забытыя кропачкі над ё, рускае слова замест беларускага ды інш.; пры паўторы той жа памылкі яна другі раз не лічыцца). Максімальны бал за мову:* ***100 –3N.***

# *“Згублены”* рай ці *“страчаны”* рай?

На сцэне Купалаўскага тэатра ідзе драма маладога менскага аўтара А.Курэйчыка “Згублены рай”. Пра п'есу і пра спектакль ужо пісалі ў нашым цэнтральным друку. А што да самога А.Курэйчыка, то пра яго пісалі аж занадта многа, прычым у сенсацыйным стылі. Ставіцца кімсьці відавочная задача прадэманстраваць у асобе драматурга-пачаткоўца гэтакага тэатральнага месію, які раптам прынёс на адсталую беларускую сцэну нечуваныя мастацкія навацыі. Напісаў жа нядаўна ў “Ліме” (28.03.2003) нехта Д. Таяноўскі, што А. Курэйчык – “сапраўдны беларускі Моцарт ад драматургіі”. Ні больш, ні менш. Хаця пры чым тут Моцарт? Але Бог з ім, аўтарам лімаўскага артыкула. Толькі ж да “сапраўднага беларускага” Курэйчыку ох як далёка. Вядома, што ён свае п'есы піша на рускай мове. На беларускую ж, калі ў ёй з'яўляецца неабходнасць, перакладае ці сам, ці хтосьці іншы. Відаць і назва “Згублены рай”, якая ўжо нават прымільгалася ў друку, ёсць вынік не надта ўдалага перакладу. Рай згубіць нельга, як нельга згубіць радзіму, сумленне, настрой, каханне. Бо гэта не матэрыяльна-прадметныя субстанцыі, як аловак, грошы, на якія мы можам забыцца, пакінуць дзесьці з-за сваёй няўважлівасці, якія могуць фізічна знікнуць, выпасці, напрыклад, з нашай кішэні, г.зн., згубіцца. Такая ж адцягнена- прасторавая з'ява, як рай можа быць страчана, а не згублена. Праўда, не выключана, што загаловак твора прэтэндуе на метафару, у якой, як вядома, жыццё эстэтычна трансфармуецца, пазбаўляецца сваёй рэальнай логікі. Толькі гэта ўсё ж не тая метафара, што паказвае выпадзенне рая з рук чалавека ці з ягонай торбы.

Сінаніміка беларускай мовы багатая, і трэба з ёю лічыцца, не выносячы на людзі скораспелыя практыкаванні. На жаль, “Згублены рай” красуецца на тэатральных афішах. І лішні раз пацвярджае, што культура мовы ў нас нізкая, нават на такім высокім узроўні, якім з'яўляецца Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы.

***Аляксей Пяткевіч,***
***ГрДУ імя Я. Купалы.***



# Прапановы

## Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" па ўдасканаленні Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь

*(Заканчэнне. Пачатак у папяр. нумарах.)*

### ГЛАВА 5. Мова назваў

***Артыкул 31. Мова назваў дзяржаўных органаў, органаў мясцовага самакіравання, прадпрыемстваў, установаў, арганізацый і грамадскіх аб'яднанняў***

*Афіцыйныя назвы дзяржаўных органаў, органаў мясцовага кіравання і самакіравання* __даюцца на беларускай і рускай мовах__. *Назвы прадпрыемстваў, установаў, арганізацый і грамадскіх аб'яднанняў даюцца* __на беларускай, а пры неабходнасці і на рускай мовах.__ *Пры неабходнасці гэтыя назвы могуць давацца ў перакладзе на іншую мову.*

**Каментар:** У некаторых рэгіёнах Беларусі (прыкладам у Наваполацку) ўвогуле адсутнічаюць шыльды і надпісы на беларускай мове. Не сустрэнеш надпісаў па-беларуску і на вакзалах памежных беларускіх гарадоў Брэст і Гродна.

***Артыкул 32. Мова тапонімаў і картаграфічных выданняў***

*У Рэспубліцы Беларусь тапонімы (назвы населеных пунктаў, адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, вуліц, плошчаў, рэк і г.д.) даюцца на беларускай мове,* __а пры неабходнасці і на рускай мовах.__

*Назвы геаграфічных аб'ектаў, якія знаходзяцца па-за межамі Рэспублікі Беларусь, даюцца на беларускай або рускай мовах ў адпаведнасці з традыцыяй, а новыя — у транскрыпцыі з мовы-арыгінала.*

*Картаграфічныя выданні, прызначаныя для карыстання ў Рэспубліцы Беларусь, рыхтуюцца і друкуюцца на беларускай* __і__ *рускай мовах.*

**Каментар:** Больш за 90% назваў населеных пунктаў у Беларусі традыцыйна даюцца на беларускай мове. Прыкладам, амаль 100% назваў вуліц у г. Мінску даецца на беларускай мове. І гэтую добрую практыку варта было б заканадаўча замацаваць і ў іншых населеных пунктах краіны.

***Артыкул 33. Мова асабовых імён***

*Беларускія (рускія) асабовыя імёны і прозвішчы ўжываюцца ў адпаведнасці з нацыянальнай іменаслоўнай традыцыяй, нормамі і правіламі беларускай (рускай) мовы.*

*Асабовыя імёны і прозвішчы з іншых моў пішуцца і ўжываюцца на беларускай (рускай) мове ў адпаведнасці з правіламі перадачы іншамоўных уласных імён.*

**Рэгістрацыйныя органы не маюць права адмовіць бацькам у выбары імя свайму дзіцяці.**

**Каментар:** Магчыма, артыкул 33 вымагае зусім новай фармулёўкі, бо практыка работы ЗАГСаў гаворыць пра тое, што бацькам не дазваляюць даваць дзецям беларускія імёны згодна з беларускай іменаслоўнай традыцыяй. Выдаюць дакументы, у якіх замест імя Васіль - Васілій, замест Генадзь - Генадзій, замест Змітрок - Дзмітрый і г.д. Склалася ўнікальная сітуацыя, калі дзіця можна назваць Камунай або Трактарынай, але нельга назваць Вальжынай ці Вінцэнтай. Грамадзяне мусяць хадзіць па даведкі ў Інстытут мовазнаўства НАН Беларусі, каб назваць сваіх дзяцей беларускімі імёнамі згодна з нацыянальнай іменаслоўнай традыцыяй.

Паколькі беларуская літаратурная ("стандартызаваная") мова грунтуецца на народнай традыцыі, у адрозненне ад рускай літаратурнай мовы, якая грунтуецца на царкоўнаславянскай традыцыі, дзе афіцыйныя формы імёнаў індэтыфікуюцца з т. зв. канічнымі (прынятымі ў "святцах"), законныя правы маюць усе народныя формы - Тэкля і Фёкла, Васіль і Базыль, Хусейн і Хусень, Барыс і Борух. Мэтазгодна выключыць з афіцыйных імёнаў "імёны па бацьку" (=отчества), гэта неафіцыйныя формы (у тым ліку "Алесевіч", "Сяржукавіч" і пад.), пісаць "сын Пятра", "Алеся" і г.д. А яшчэ лепш - падаць імёны бацькі і маткі.

*Прапановы па ўдасканаленні Закона аб мовах падрыхтавалі:*

1. ***Бураўкін Генадзь*** *- паэт, былы старшыня Дзяржкамітэта БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні (1972 - 1990).*
2. ***Баршчэўскі Лявон*** *- намеснік дырэктара НДГЛ імя Я. Коласа, дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь XII склікання.*
3. ***Гілевіч Ніл*** *- Народны паэт Беларусі, прафесар, кандыдат філалагічных навук, старшыня Камісіі па адукацыі, навуцы і культуры Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь XII склікання.*
4. ***Кручкоў Сяргей*** *- намеснік старшыні ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны".*
5. ***Рагойша Вячаслаў*** *- загадчык кафедры беларускай мовы і літаратуры БДУ, доктар філалагічных навук.*
6. ***Стэпановіч Язэп*** *- старэйшы навуковы супрацоўнік Інстытута батанікі НАН Беларусі, кандыдат біялагічных навук.*
7. ***Трусаў Алег*** *- дацэнт БДУК, кандыдат гістарычных навук, старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны", намеснік старшыні Камісіі па адукацыі, навуцы і культуры Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь XII склікання.*
8. ***Цыхун Генадзь*** *- загадчык сектара славяназнаўства Інстытута мовазнаўства НАН Беларусі, прафесар, доктар філалагічных навук.*

# Кахаем па-сучаснаму ды па-нашаму

**Гутарка Ірыны Секержыцкай з першым намеснікам Старшыні ТБМ Людмілай Дзіцэвіч**

***- Я ведаю, што ТБМ у лютым праводзіла месячнік "Любіць і кахаць па-беларуску". Што адбывалася ў рамках гэтага месячніка?***

- Мы запланавалі шэраг конкурсаў: "Любоўныя пары ў беларускай літаратуры", "Пісьменнікі і іх каханыя", "Любоўныя пары ў нашай гісторыі"; конкурс на найлепшае разважанне "Любоў і каханне ў нашым жыцці". Усё гэта было праведзена ў Тэхналагічным універсітэце і ва Універсітэце культуры.

Яшчэ адзін конкурс пад назвай "Як мы пазнаёміліся". Па ўмовах конкурсу неабходна было падаць аповед пра тое, як пара маладых людзей ва ўзросце да 25 гадоў пазнаёміліся. Адметнасць заключаецца ў тым, што знаёмства павінна адбыцца на беларускай мове. Суперпрызам ў гэтым конкурсе стане адпачынак на адным з курортаў Беларусі для дваіх. А таксама ў газеце "Новы Час" быў змешчаны артыкул выкладчыкаў БДУ культуры "Любіце і кахайце па-беларуску". У ім былі пададзены словы любві, з якімі можна звяртацца да дзяцей, да мужчын, жанчын, да бацькоў, да знаёмых і незнаёмых людзей. У нашай мове гэтая лексіка пачынае знікаць, і цяпер нават слова любы замяняецца русіфікаваным любімы, а многія словы і ўвогуле не выкарыстоўваюцца: красуня, князёўна, княгінька. Пачынаем замяняць іх на неўласцівыя для Беларусі каралева, прынцэса. І гэта выклікае шкадаванне, таму што знікае адметнасць беларускай любоўнай лексікі ў тым інтымным аспекце, як каханне. Нашы бацькі, дзяды ўмелі кахаць на сваёй мове, а мы губляем гэтую здольнасць.

Я думаю, што дзяўчына або жанчына, хлапец ці мужчына, якія ўмеюць любіць і кахаць на беларускай мове - гэта рэдкая каштоўнасць у сучаснай Беларусі. Напэўна, у лепшым выпадку выкарыстоўваецца трасянка.

Вось мы і захацелі вярнуць жыхароў Беларусі ў гэтую цудоўную нацыянальную лексіку.

***- І гэта Вам удалося?***

- Усё пачынаецца з першага кроку. І наш месячнік - гэта ўжо нават не першы крок - гэта проста пашырэнне выкарыстання нашай мовы ва ўсіх сферах жыцця, і калі сёння да тых людзей, што любяць і кахаюць на нашай мове, далучыцца яшчэ хоць з дзесятак чалавек, - мы згодныя лічыць гэта перамогай. Мы не ставім мэту хутка перавесці ўсіх жыхароў на беларускую лексіку - гэта не рэальна на сёння. Але, я ўпэўнена, праз пэўны час беларуская мова выйдзе на вуліцы, у крамы, у ашчадкасы, увойдзе ў любоўныя адносіны.

***- Якія вынікі месячніка? Ці задаволены Вы імі?***

- Я надзвычай задаволена імі. Па-першае, я ўбачыла, што ў краіне існуе вялікі голад па любоўнай тэме. Людзі не ўмеюць любіць і разам з тым хочуць, каб іх любілі. Асабліва складана з гэтай тэмай у асяроддзі сталых людзей. Яны прывыклі стрымліваць свае пачуцці. Моладзь, наадварот, любіць, каб знакі любові і кахання праяўляліся. Так на гэтай глебе і ўзнікае канфлікт паміж бацькамі і дзецьмі. Месячнік ускалыхнуў людзей, прыцягнуў увагу да гэтай тэмы.

Па-другое, моладзь паказала цудоўныя веды беларускай гісторыі, беларускай літаратуры, герояў нашых кніг. Пры падборы матэрыялаў для конкурсаў я знайшла інфармацыю, якую нават сама не ведала. Пагэтаму мяне турбавала, што студэнты не змогуць адказаць на многія пытанні, падрыхтавала нават падказкі. Але, на маё здзіўленне, яны не спатрэбіліся. Я не паспявала дагаворваць пытанне да канца, як жо гучаў адказ. Гэта значыць, што маладое пакаленне валодае інфармацыяй па нашай гісторыі і культуры. Мы здолелі павысіць узровень нацыянальнай свядомасці, узровень ведаў па краіназнаўстве.

***- Ці былі якія-небудзь цікавыя выпадкі пры праведзенні месячніка?***

- Так, я магла б назваць цікавым выпадкам знаходжанне фінансавання гэтага месячніка. Як толькі мы распаўсюдзілі лісток, заяву сакратарыята "Любім і кахаем па-беларуску", у ТБМ завітаў прадпрымальнік і прапанаваў цікавыя праекты ў план месячніка, якія ён фінансуе, што мы з задавальненнем сталі рэалізоўваць. Гэта праект "Як мы пазнаёміліся".

Яшчэ цікавым я магла б назваць рэакцыю "Беларускай дзелавой газеты" на наш месячнік, калі журналісты на яе старонках сталі высвятляць, што такое любоў і каханне па-беларуску і чым яны адрозніваюцца ў іншых краінах.

Яшчэ я мяркую, надзвычай вялікая цікавасць да моўных праблем праявілася і ў праграме "Выбар" АНТ. Удзельнікі абмяркоўвалі пытанне: "Ці стане беларуская мова асноўнай у нашай краіне?" Меркавалася, што створацца дзве групы для ўдзелу. Група рэалістаў, прагматыкаў і, як апаненты ім, група рамантыкаў. Для ўдзелу ў групе рэалістаў спачатку не з'явіўся ніхто, а потым, калі ўжо групы апанентаў былі створаны ўсё-такі, то ўсе апануючыя бакі прыйшлі да самай важнай на сёння для Беларусі высновы: "матчыну мову" трэба захоўваць і пашыраць.

***- Скажыце, а для чаго праводзяцца такія месячнікі?***

- Такія месячнікі вельмі важныя ў ролі так званага штуршка. Нацыянальны характар беларусаў такі, што ў сваёй абыякавасці, цярплівасці, пасіўнасці нашы людзі могуць патануць на многія вякі, калі іх не падштурхнуць. А калі іх паклічаш, напрыклад, любіце і кахаць на сваёй мове, то яны падумаюць: "А што, і сапраўды, ці мы не беларусы, ці няма ў нас сваёй мовы?! І потым пачынаецца варушэнне, рух да сваёй. І гэта многім беларусам даспадобы, бо яны любяць загад і прымус або заклікання. Значыць, трэба навучыцца выкарыстоўваць і тыя рысы характару нашага народа, што звычайна выкарыстоўваюцца для стварэння показак (анекдотаў).

***- Што ж, дзякуй за гутарку. Я і чытачы газеты "Наша слова" будзем чакаць наступных месячнікаў.***

*Гутарыла Ірына Секержыцкая*

# Жыві тэатр!

У беларускай школе імя Францішка Скарыны шмат гадоў паспяхова дзейнічае школьны тэатр "Званочак", кіраўнік – ст. настаўніца пачатковых класаў Ала Віктараўна Шынкевіч. У рэпертуары казкі, творы беларускіх пісьменнікаў. А ў сакавіку адбылася прэм'ера па казцы Генадзя Тумаша "Лісіца з Расохі". Прадстаўленне атрымалася яркае, маляўнічае, жывое, шмат дзейных асобаў. Казка цікавая, напісана ў вершаванай форме. Дзеянне адбываецца ў вясковым двары. Перад тым, як паказаць гледачам, шмат папрацавалі і артысты, і кіраўнік. – вучылі тэкст, уваходзілі ў роль, шылі касцюмы, рыхтавалі маскі, дэкарацыі, праграму.

Спектакль паказвалі перад выхаванцамі дзіцячага садка, будучымі першакласнікамі нашай школы, на Дзень тэатра выступілі зноў у школе, а потым прынялі ўдзел у гарадскім конкурсе. Ён быў ацэнены, кіраўнік атрымала грамату, а артысты – падарункі і білеты ў тэатр.

Вучні вельмі любяць свой тэатр і ахвотна ў ім займаюцца, тут яны праяўляюць сваю актыўнасць, здольнасць, цікавасць, узнікаюць розныя формы працы: чытаюць, абмяркоўваюць ролі, а пры падрыхтоўцы спектакля па казцы Г. Тумаша "Лісіца з Расохі" шмат увагі ўдзялялі слоўнікавай працы. У школьным рэпертуары з'явіўся яшчэ адзін твор: "Лісіца з Расохі", яшчэ адзін аўтар: Генадзь Тумаш. Жыві тэатр! Наперадзе цікавыя сустрэчы.

***Леакадзія Мілаш, Вільня.***



**На здымку:** артысты лялечнага тэатра "Званочак" з кіраўніком Алай Шынкевіч.

Спектакль "Лісіца з Расохі" па казцы Генадзя Тумаша.

**Здымак Леакадзіі Мілаш.**

*Царэчы, упершыню казка Генадзя Тумаша "Лісіца з Расохі" была надрукавана ў "Нашым слове".*

